# Днепроўская СТРОМА

№ 12 лістапад 2012 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»


## "Я сам абраў сваю дарогу..."

16 лістапада 2012 года ў магілёўскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя К.Маркса ў рамках пасяджэння клуба ветэранаў "Субяседнік" адбылася сустрэча з літаратарам, ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, сябрам ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Феліксам Уладзіміравічам Шкірманковым.



Фотаздымкі М.Яцкова

Фелікс Шкірманкоў уважліва слухае вершы Леаніда Осіпава

Ён расказаў прысутным аб сваім жыцці і накірунках творчай дзейнасці. Была разгорнута кніжная выстава з творамі Фелікса Шкірманкова пад назвай *"Я сам абраў сваю дарогу..."*. Супрацоўнікі бібліятэкі падрыхтавалі відэапрэзентацыю,прысвечаную жыццю і творчасці Ф.Шкірманкова. Слухачы паслухалі вершы пра вайну і каханне ў аўтарскім выкананні. Таксама вершы Ф.Шкірманкова прагучалі і ў выкананні сябраў клуба. Свае творы таксама прадставілі мясцовыя паэты Леанід Осіпаў, Валянціна Жаўняк, Нэлі Кароль і Рыма Сорына. Шаноўны госць адзначыў высокі ўзровень таленавітасці сябраў клуба і падзякаваў ім за гасціннасць. Гаспадары запрасілі літаратара-франтавіка на новыя сустрэчы ў сваім клубе.

**Мікола ЯЦКОЎ.**



Зінаіда Гарадніцкая

Серафіма (Рыма Сорына)

Валянціна Жаўняк

Нэлі Кароль



Кветкі паэту ўручыла бібліятэкар Ірына Цінякова

Сяброўскае чаяванне

## Вяртанне Барыса Мікуліча



У Бабруйску пачаўся збор подпісаў грамадзян з просьбай прысвоіць імёны рэпрэсаваных пісьменнікаў Барыса Мікуліча і Сяргея Грахоўскага вуліцам горада. Гэту ідэю падаў пісьменнік Алесь Бяляцкі, які паведаміў, што ўраджэнцу Бабруйска Барысу Мікулічу, якога рэпрэсавалі ў 1936 годзе, сёлета споўнілася 100 гадоў, а Сяргей Грахоўскі, які таксама спазнаў жахі ГУЛАГа, пачынаў сваю працоўную дзейнасць менавіта ў Бабруйску. Высветлілася, што вялікую працу ў гэтым кірунку ўжо правяла бабруйская бібліятэка № 4, калектыў якой выступае за прысваенне ёй імя Барыса Мікуліча. Супрацоўнікі бібліятэкі звязаліся з жыхарамі пасёлка Машукоўка ў Сібіры, дзе памёр беларускі пісьменнік, і актыўна вядуць з імі перапіску. Адтуль перадалі шмат матэрыялаў пра Б.Мікуліча. Там даглядаецца яго магіла, і ў 2002 годзе быў адкрыты новы надмагільны помнік.

*«Час, расставіўшы ўсё па сваіх месцах, вярнуў нам сумленнае і незаплямленае імя пісьменніка. Мы памятаем пра вас, Барыс Міхайлавіч...»* — напісаў настаўнік гісторыі машукоўскай сярэдняй школы Міхаіл Захарцоў у 2007 годзе ў газеце «Красноярский рабочий». Але трэба, каб не толькі ў Сібіры помнілі таленавітага беларускага пісьменніка, а каб і радзіма ўшанавала памяць свайго сына, які з годнасцю ішоў па цярністых шляхах жыцця...

*(Працяг на с.2-3)*

## ВОЛЬНЫ МІКРАФОН

## Дайце культуры грошы!

Культура патрабуе ўсё ж такога стаўлення, як ва ўсім свеце: каб ёй далі грошы і не лезлі ў тое, што ў ёй адбываецца. Гэта самае галоўнае. А Міністэрства культуры ёсць і ёсць, існуе нейкім там чынам, нешта яно там сабе робіць і робіць, справаздачы дае, людзі грошы атрымліваюць. Сапраўднаму творцу не патрэбна нейкае там упраўленне. Вось гэтае стаўленне некаторых людзей, якое агучваецца: *"Хай Міністэрства культуры не ўлазіць у творчыя працэсы, толькі іх каардыну*е" — самае небяспечнае.

...Самая вялікая бяда ў тым, на мой погляд, што людзі, якія маглі б займацца культурай ды сказаць слова, ад гэтага адышлі. Драбнаты нейкай панаплывала. Зараз жа ўсе могуць співаць, нейкія вершы пісаць: *"Ты мне лучшэ што красівае скажы"...* Нецікава гэта ўсё. Наўрад ці праб'ецца штонебудзь цікавае напачатку дваццаць першага стагоддзя. Трэба, каб усё ўляглося, людзі падумалі і пачалі нешта новае ствараць. Мы жывем ў эпоху, калі ўсё замірае, памірае.

...Жывем пры канцы Савецкага Саюза — ён яшчэ не скончыўся. Не скончылася нават дваццатае стагоддзе, хоць на дварэ 2012 год! Ведаеце, калі завяршылася дзевятнаццатае стагоддзе? Калі пачалася Першая сусветная вайна, роўна ў 1914 годзе, калі добрая старая Еўропа разам пачала валіцца. Тое самае і тут. Трэба нешта рабіць з гэтымі людзьмі, якія ўсё плачуць: *"У савецкія часы было таннае насенне. Вярніце нам савецкую ўладу!"* Вось гэта гора. Калі ўсё гэта скончыцца, тады застанецца нешта вартае, якое можна будзе пералічыць па пальцах адной рукі — пачнецца зусім іншая эпоха.

...Людзі лічаць, што калі яны пачалі співаць па-беларуску, то гэта ўжо супер! А гэта не супер, таму што англічане па-англійску співаюць, а палякі — па-польску. Вось гэта дзэбільная рэч сярод моладзі, колькі разоў сустракаўся: а мы будзем співаць па-ангельску, бо мы хочам зрабіць сольную кар'еру, каб нас заўважылі за мяжой. Найперш трэба быць заўважным у сваёй краіне, бо нідзе ты больш не патрэбны. Ёсць вельмі рэдкія прыклады, калі людзі зрабілі імя спярша там, а пасля вярнуліся сюды. Але закон такі: спачатку тут, а пасля там.

...Я паездзіў па бардаўскіх конкурсах, паглядзеў... Быў я нядаўна на нейкім фестывалі ў Магілёве — там, аказваецца, ёсць аўтары-выканаўцы... Вось, напрыклад, песня *"Моя жена разбила унитаз"*. Гэта што, сацыяльны пратэст ці намёк, што ўнітаз — гэта не ўнітаз, а жонка — то не жонка?.. Навошта шукаць сімвалы там, дзе іх няма?

...Усё залежыць ад таго, чаго ты наслухаўся ў дзяцінстве. Калі табе патрапілася нейкая сур'ёзная музыка, ты потым на яе аснове напішаш нешта новае. Калі глядзіш на старэйшае пакаленне музыкаў — Аляксандра Вярцінскага, Аляксандра Галіча — ты разумееш, што яны вельмі адукаваныя асобы, яны самі па сабе нешта ўяўлялі. Іх жыццё выхавала і паставіла на сцэну, у адрозненні ад тых сучасных маладзёнаў, якія на сцэну пруцца. Няма фабрыкі зорак, няма! Зоркі павінныя вырасці самі па сабе..



**Віктар ШАЛКЕВІЧ, пісьменнік, бард.**

Паводле naviny.by

# Вяртанне Барыса Мікуліча



Барыс Міхайлавіч МІКУЛІЧ нарадзіўся 19 жніўня 1912 г. у Бабруйску ў сям'і медыкаў. Першыя апавяданні напісаў у 15 гадоў. У 1930 г. пераязджае ў Мінск. Вучыўся ў пединстытуце, на літаратурных курсах у Маскве. Пачаў друкавацца з 1927 г. Выдаў зборнікі апавяданняў «Удар», «Чорная вірня», «Карунд», аповесці «Наша сонца» і «Ускраіна», «Дужасць», «Дружба». З 1934 г. член Саюза пісьменнікаў Беларусі і СССР. Арыштаваны 26 лістапада 1936 г. па ілжывым даносе. Абвінавачваўся ва ўдзеле ў трацкісцкай арганізацыі, шпіянаж на карысць Польшчы, выданне контррэвалюцыйнай літаратуры. Асуджаны на 10 гадоў. Тэрмін адбываў у Краслаге. Вызвалены ў 1946 г. У 1947 г. вярнуўся ў Беларусь, судзімасць была знятая. Працуючы ў 1948 г. ў Бабруйскай гарадской бібліятэцы, Б.Мікуліч карпатліва збірае матэрыял аб дзейнасці падполля ў гады фашысцкай акупацыі. У выніку была напісана аповесць «Цяжкая часіна». У красавіку 1949 г. зноў арыштаваны і сасланы на вечнае пасяленне ў пасёлак Машукоўка Краснаярскага краю. Працаваў дыспетчарам ў леспрамгасе. 17 чэрвеня 1954 г. Барыс Міхайлавіч Мікуліч памёр за працоўным сталом ад сардэчнага прыступу. Пахаваны ў Машукоўцы. У верасні 1954 г. рэабілітаваны. 12 чэрвеня 2002 г. на магіле Б.М. Мікуліча быў усталяваны надмагільны помнік, а магіла абнесеная металічнай агароджай.




Невялікія сельскія могілкі ў Машукоўцы. Абдымаюць іх з аднаго боку густы лес, а з другога блізка падступала узлётна-пасадачная паласа. І ўсё ж такі тут асаблівая, пранізлівая цішыня. Ан-2 прыляцяць сюды адзін раз у дзень, каб прывезці пасажыраў і пошту, і зноў ціха і спакойна. Ціхае месца. Ціхая магіла. І мала хто ведае, якога незвычайнага лёсу чалавек знайшоў на гэтых могілках апошні прытулак. Якія страсці кіпелі калісьці вакол гэтага імя!..

Беларускі пісьменнік Барыс Михайлавіч Мікуліч пражыў усяго толькі 42 гады. Пятнаццаць з іх – у сібірскіх лагерах і турмах. За што абвінавачаны і асуджаны? За смеласць, за талент, малады і светлы. За творы, напоўненыя вострымі сацыяльнымі тэмамі, рамантычнай барацьбой, пафасам сацыялістычнай будучыні. Асуджаны за тое, што ў рокавыя трыццатыя-саракавыя гады задумваўся пра лёсы народа, спрабаваў разабрацца ў падзеях, якія адбываліся ў краіне, шчыра і горача данасіў іх сутнасць людзям.

Увосень 1936 г. Мікуліча арыштавалі па ілжывым абвінавачванні. Пра тое, што прыйшлося перажыць маладому пісьменніку ў тыя дні, лепш за ўсё расказваюць яго дзённікі. *«Па-першае, мне інкрымінавалі ўдзел у нейкай фантастычнай трацкісцкай арганізацыі. Аказалася, што па ўзросце гэта не ўвязваецца. Адпала. Затым – шпіянаж на карысць Польшчы. Але і тут нельга было знайсці хоць нейкія сувязі. Адпала і гэта. І што ж?..»* Усе вынес ён і застаўся чалавекам, не паступіўся сумленнем. Пазней ён напіша аб бесчалавечнай жорсткасці, што панавала ў сібірскіх лагерах, аб прыніжэнні чалавека чалавекам. Напіша, што не страціць годнасці тут было вельмі цяжка: *"Я застаюся такім жа, якім прыйшоў сюды. Ніхто не ўспомніць мяне худым словам. Знойдзецца,вядома, нямала людзей, якія скажуць пра мяне – дзівак".* Дзівак таму, што не змог, не захацеў прыстасавацца да лагернага начальства, даць хабар, стаць вымагальнікам, забяспечыць сабе адносна нябеднае лагернае існаванне.

Апынуўшыся на волі, на радзіме, пісьменнік спяшаецца, піша. Яму ёсць пра што распавесці людзям. Ён нібы адчувае хуткацечнасць, сціласць вернутай волі. І не памыляецца ў сваіх прадчуваннях. У красавіку 1949 года яго зноў арыштоўваюць. Прысуд: *"На вечнае пасяленне ў Краснаярскі край".* Месцам ссылкі пісьменніка вызначана Машукоўка Тасееўскага раёна.


Барыс Мікуліч з жонкай Марыяй і прыёмным сынам Яўгенам. 1953 г.

Як жылося тут пісьменніку? Якім было яго атачэнне? Чым ён займаўся ў гэты апошні пяцігадовы перыяд жыцця? Пра гэта распавядаюць машукоўскія старажылы. Аказваецца, у тыя цяжкія пасляваенныя гады жыццё ў Машукоўцы было нашмат цікавей цяперашняга. Напаўнялі зместам, ўзбагачалі яе менавіта сасланыя. Каго толькі не пазнала далёкая паўночная вёсачка – і рэжысёра Аляксандра Мацвеева, і маскоўскага артыста Яўгена Талубяку, і спявачку з Ленінграда Лізавету Кузьменка, і многіх іншых. Але, мабыць, часцей успамінаюць старажылы Барыса Мікуліча – чалавека найрэдкага абаяння, высокай культуры, сціпласці. Ён прыбыў у Машукоўку ў трыццаць сем гадоў, але быў ужо зусім сівы і з невераготным смуткам у вачах...

Усе сасланыя працавалі ў леспрамгасе. А вольны час аддавалі любімай справе. Мікуліч шмат пісаў.

Лёс не абышоў яго простым чалавечым шчасцем, хоць і нядоўгім. У 1950 годзе прыехала настаўнічаць у вёску выпускніца Канскага педагагічнага вучылішча Марыя Смелякова. Яны сустрэліся – змардаваны жыццём 38-гадовы Мікуліч і маладая жанчына – і ў тым жа годзе пажаніліся. Марылі жыць доўга, любіць адзін аднаго. Але лёс распарадзіўся па-іншаму, адмераўшы ім малы тэрмін – усяго чатыры гады. Усё часцей і часцей вострая боль рэзаў сэрца. І ўсё цяжэй было выносіць гэтую пакутлівую боль. 17 чэрвеня 1954 года Мікуліч, прыйшоўшы на працу, бяссільна схіліўся над сталом і памёр. Усяго тры месяцы не дажыў пісьменнік да сваёй рэабілітацыі. Крыўдна і балюча казаць пра гэта...

Творы Барыса Мікуліча, напісаныя ім у ссылцы, ацалелі. Больш за тое, прыязджалі ў Машукоўку важныя госці з Масквы, цікавіліся хаткай пісьменніка. Забралі ўсе паперы...

Час паставіў усё на свае месцы, вярнуў нам некалі забароненага Мікуліча. У беларускім выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў зборнік яго аповесцяў. Рыхтуюцца да друку і астатнія творы пісьменніка, які стаў цяпер класікам беларускай літаратуры.

... Не ацалеў домік на вуліцы Набярэжнай, у якім правёў апошнія гады жыцця Барыс Міхайлавіч Мікуліч, але затое застаўся дом, у якім ён працаваў. І трэба, напэўна, зрабіць так, каб, праходзячы міма, людзі ўспаміналі пра чалавека незвычайнага, які жыў па законах дабра і справядлівасці.

*Паводле газеты «Ангарский рабочий»)*

З захапленнем расказваў пра Барыса Мікуліча, свайго лепшага таварыша незабыўны Станіслаў Пятровіч Шушкевіч. Творы таленавітага пісьменніка па розных прычынах дайшлі да нас занадта позна, калі ўжо Барыса Міхайлавіча не было ў жывых. Многія з іх яшчэ і сёння чакаюць свайго чытача, а некаторыя, напэўна, незваротна згубіліся, і мы ўжо ніколі іх не прачытаем.

Барыс Мікуліч — адзін з найменш прачытаных беларускіх творцаў, адзін с самых адораных — і не раскрытых, не ўвасобленых у тэкстах. Ён — адзін з самых стыльных, рытмічных празаікаў. Празаікаў, які б мог яшчэ задоўга да Караткевіча ўвекавечыць у гістарычным рамане Кастуся Каліноўскага. У часы, калі Максім Багдановіч быў «буржуазным», Барыс Мікуліч пісаў пра яго раман, а аўтэнтычныя звесткі атрымліваў ад Змітрака Бядулі, з якім побач жыў і з сям'ёй якога сябраваў...

Характарыстыкі Барыса Мікуліча застаюцца афарыстычнымі і сёння: *«Купала быў поўнай супрацьлегласцю Якубу Коласу, педантычнаму, сухаватаму, дзелавітаму атрутна-праніклівяму. Было нешта ў натуры Купалы ад разгульнай польскай шляхты, у той час як Колас — настаўнік, які выбіўся з нізоў, але з тыповай мужыцкай кемлівасцю і хітраватасцю. Купала здзяйсняў тысячы безразважлівасцяў. Колас узвешваў усё, а раз зрабіўшы ацэнку ці выказаўшы думку, — ніколі іх не мяняў і ахоўваў ад «рэвізіі». Купала — само натхненне, маса экспромтаў, усё ў парываннях; Колас — у карпатлівай працы, у «выседжванні», у стараннай прадуманасці, дэталізацыі і, я б сказаў прама, у абачлівасці, асцярожнасці».*

*"...Я зноў (у які раз!) стаю перад дзвярыма ў невядомае, за якімі — іншае жыццё, чым тое, якое мною пражыта за гэтыя дзесяць гадоў... Адзінае, што захавалася, фотакартка 1930 года, выяўляе юнака з густой светлай шавялюрай, з пяшчотным і (о так!) жаноцкім абліччам твару ды яшчэ знарочыста засяроджанымі вачыма. А зараз? Сівізна і нездаровая жаўцізна. Цёмныя вочы. Узвінчаныя нервы. Разбітыя ілюзіі. І зноў — дзверы. Куды? У невядомае».*

Гэтыя радкі ён напіша, адбыўшы дзесяцігадовы тэрмін зняволення, вярнуўшыся ўрэшце на радзіму.

У 1936 годзе, калі яго арыштавалі, Б.Мікуліч было ўсяго 24 няпоўныя гады. А ён ужо так многа паспеў зрабіць. Пісаў, нібыта прадчуваючы нешта нядобрае. Толькі за пяць гадоў (1931—1936) выдадзены сем зборнікаў прозы.

Ці ж здагадваўся ён, якія выпрабаванні пашле яму неўзабаве лёс? Жудасным быў шлях паэта ў зімовы Сіблаг: *«Я ішоў пешшу па 30-градусным марозе ў лёгкай мехавой куртачцы, у бацінках і ў замшавых пальчатках — шэсцьдзясят кіламетраў — і дайшоў, а многія здаравякі падалі.*

*Я галадаў да страшнай цынгі і страты прытомнасці — і вытрымаў. Тут — сіблагаўская дружба з Ларыем Дуброўскім* (быў намеснік рэдактара «Чырвонай змены»), *вось адзіны, чый лёс мяне хвалюе. У памяшканні, дзе было не цяплей ( - 9°), мы захіналіся з ім у адну коўдру і дыханнем саграваліадзін аднаго.*

*Я піліў дровы і задыхаўся ад манатонных рухаў, карчаваў пні, будаваў чыгунку, грузіў лес і рэйкі, разгружаў пясок, валіў дрэвы, капаў зямлю — і ведаю цану чалавечай працы і адчаю».*

Дзесяць гадоў маўчання толькі знешне нагадвалі маўчанне. Нават у бесчалавечных умовах выношваліся нейкія задумы, у бяссонныя начныя хвіліны ён шмат пісаў, перакладаў на рускую мову.

У 1946 годзе тэрмін зняволення скончыўся, і Б. Мікуліч паедзе ў Ашхабад да старэйшай сястры Каці, а адтуль вернецца ў Беларусь. Спачатку жыў у Бабруйску, потым у сваякоў на Лагойшчыне, потым зноў у Бабруйску. Там уладкаваўся на працу ў бібліятэку. І пад вольным родным небам жылося няпроста. Гэта былі цяжкія пасляваенныя гады, краіна толькі адбудоўвалася, ставілася на ногі. Трэба было клапаціцца пра кавалак хлеба. Мікуліч увесь час думае, як зарабіць тую ж капейчыну, часта выступае з лекцыямі па літаратуры, сціплыя грошы ідуць на дапамогу родным і яшчэ на кнігі. А да ўсяго Б. Мікуліч *«літаратурай хворы хранічна».* Усе свае вольныя хвіліны, нават ночы ён праседжвае над аркушам паперы. Пісаць прывык у самых неверагодных умовах. Творчы імпэт не згас.

Судзімасць з яго знялі, але ад гэтага не палягчэла. Ён адсылае свае творы ў мінскія рэдакцыі, а там — поўнае маўчанне. Пісьменніка як быццам не існуе. Ён піша пісьмы Максіму Танку, Міхасю Лынькову, які калісьці падтрымаў яго, залічыў на працу ў бабруйскую газету «Камуніст». Яго лісты часта застаюцца без адказу. Усё гэта трывожыць, надае адчаю: *«Увесь свет як быццам у змове — ніхто не піша...».* Крыху раней: *«Вядома, мне трэба з'ездзіць у Мінск... Але... але мне не хочацца зноў абіваць парогі, прыніжацца, гаварыць не тое, што думаю, прасіць і г. д. Праз лісты я гэта раблю неяк смялей. Што зробіш — характар!»*

Цяжка сёння перачытваць гэтыя ліс-

ты. Пісьменнік марыў, выношваў надзею, а ўсё адразу разбівалася аб глухую сцяну маўчання.

Гэтым жа часам і пішацца яго галоўная кніга «Аповесць для сябе». Самыя апошнія старонкі яе поўныя адчаю і расчаравання: *«Вобразы ненапісаных кніг цесняцца вакол мяне, са мною ходзіць побач прыгожая мая мара, якая падтрымлівала мяне і ў ветраным новасібірскім стэпе, і ў маразы Краснаярска, і ў гразі этапаў, і ў вугальным пыле «пяцьсот вясёлага»... Няўжо ты пакінеш мяне цяпер, мая залатая сяброўка — мара?»*

І яна пакінула яго. У красавіку 1949 года яго зноў арыштоўваюць і высылаюць у далёкі Краснаярскі край, у пасёлак Машукоўка, у самую глуш, над ракой Тасей — прытокам Ангары.Прывязуць яго сюды *«амаль мерцвяком, фізічным і маральным».* З кім падзяліцца чалавеку сваім болем? Хіба што з тайгой? Густая і бясконцая на сотні кіламетраў тайга засланяе чалавеку ўвесь свет. І дарэмна шукаць адсюль выйсця, яго няма. Леспрамгас, у якім ён будзе працаваць рахункаводам, – у 120 кіламетрах ад раённага цэнтра і ў 250 кіламетрах ад чыгункі. Вакол хмары машкары, якая з'ядае ўсё жывое. Адно хіба суцяшэнне: недзе побач жыве Андрэй Александровіч, а праз 17 кіламетраў – Станіслаў Шушкевіч (*«Я ўжо жартаваў: ці не адкрыць філіял Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі!»*).

*«Машуковак такіх – цьма, – пісаў ён у сваіх лістах. – Урад павінен ведаць, што калі б ліквідавалі гэтыя Машукоўкі, у краіне б наступіла вясна».*

Вясны ў сваім жыцці нявольніка Барыс Мікуліч не дачакаўся і змірыўся з гэтым усім. Хоць і ў такіх умовах, а трэба жыць. Жыццё будуць крыху згладжваць пісьмы з радзімы, тыя ж кнігі, творчасць, а яшчэ тутэйшы тэатр у таёжнай Машукоўцы. У высылцы, у самых нязвычных і суровых умовах, ён выканае шмат няпростых роляў у вядомых і невядомых спектаклях, выканае бліскуча, з поўнай акцёрскай аддачай. Але самай цяжкай будзе тая роля, якую давядзецца яму «іграць» да канца дзён сваіх у суровым спектаклі самога жыцця. Роля чалавека, незаслужана пазбаўленага самага дарагога ў свеце,– волі, праўды і справядлівасці, – пад сілу не кожнаму. Ён жа яе выконваў годна.

Трэба было жыць. Там жа, на таёжнай сцэне, знойдзе пісьменнік і надзейнага сябра жыцця. На беразе Тасеі пабудуюць яны сціплы домік, будуць гадаваць сына. Потым, збіраючы па капейцы грошы, купяць нават радыёпрыёмнік, і далёкі свет адразу пабліжэе. У 1952 годзе яму споўніцца сорак гадоў. *«3 іх,* – як напіша ён у пісьме на радзіму, – *15 я амаль не жыў, а існаваў».*

Пачало падводзіць пісьменніка і здароўе. Ды і адкуль яму быць, калі Б. Мікуліч жыў у такой невыноснасці і напружанні, адарваным ад родных, сяброў і радзімы? *«...Цяпер я жыву з такім адчуваннем, што кожную хвіліну мяне павінны зноў сарваць з месца, зноў некуды паклікаць, зноў некуды везці».* Гэта было адчуванне хворага чалавека, які пачынае разумець сваю безвыходнасць, але ўсё верыць у жыццё, у яго нечаканыя праявы.

Дзе сёння тыя сшыткі, якіх так многа бачыў С. Шушкевіч, калі аднойчы наведаў свайго даўняга таварыша на Тасеевай рэчцы. Там былі і дзённікі, і апавяданні, і нават творы для сына. Для маленькага Жэніка былі напісаны казкі «Чаму Тасеева рэчка ў Ангару пабегла», «Як Дзед Мароз праз Ангару Жэню перавозіў», «Мядзведзь-Свавольнік з Вясёлай гары».

С.Шушкевіч аднойчы ўсё ж адважваецца на сустрэчу з сябрам, якога не бачыў пятнаццаць гадоў. Вось як тое было: *«Іду па лёдзе ракі. Дванаццатая гадзіна ночы. Агіна дугу скалістай стромы, і перад вачыма рабочы пасёлак...*

*Стукаюся ў дзверы невялічкага доміка, што стаіць на высокім беразе ракі. У будцы забрахаў сабака, выскачыў і кінуўся да мяне. Засвяціліся вокны, і з-за дзвярэй чую голас:*

*— Хто вам патрэбен?*

*— Можа, пусціце пераначаваць? – змяніўшы крыху голас, абзываюся я.*

*— У мяне цеснавата, але адмовіць не магу, на падлозе хіба пасцелем, бо... – гаворыць, адчыняючы дзверы, Барыс і раптам, убачыўшы мой твар, кідаецца на шыю».*

Яны не спалі ўсю ноч, было пра што пагаварыць, паўспамінаць. А другой сустрэчы ў пісьменнікаў-сяброў не адбылося. Праз нейкі час кацер імчаў Станіслава Пятровіча ўніз па рацэ і, пільна ўглядаючыся ў паясок Рыжкавых гор, ён выглядаў магілу свайго сябра.

Сваю «Аповесць для сябе» Б. Мікуліч заканчвае так: *«Нарэшце, стаўлю кропку. «Аповесць для сябе»? Не! Я хачу, каб гэты канспект аповесці быў для ўсіх, каб яны любілі і цанілі жыццё і каб не расставаліся з марою»...*

Дэтэктыўны не толькі лёс пісьменніка, але – і яго ных твораў. «Аповесць для сябе» дзіўным чынам вызваліў са справаў КДБ калега-пісьменнік Сяргей Грахоўскі, – з нечаканай дапамогай тагачаснага начальніка беларускай школы КДБ. У 1970 годзе гэты твор збіраўся апублікаваць макаёнкаўскі «Нёман». Было расчытана і перадрукавана 100 машынапісных старонак, якія неўзабаве «супрацоўнікі ў штацкім» канфіскавалі разам з рукапісам. Публікацыі – творчага ўваскрашэння – Барыса Мікуліча не адбылося. Толькі ў 1987-м «Нёман» апублікаваў першую частку «Аповесці...», другую ж – больш чым праз год.

*«Мне часта з суровай і заветнай сібірскай далечы чуецца праніклівы голас Барыса Мікуліча,* – прызнаваўся ў пасляслоўі да публікацыі «Аповесці для сябе» Сяргей Грахоўскі. – *Там пад крышталёвым саркафагам у вечнай мерзлаце – яго адзінокая магіла і жыве добрая памяць удзячных яму людзей».*

Сёння школьнікі Машукоўкі, сярод якіх нямала нашчадкаў колішніх сталінскіх зэкаў, пад ачолам настаўніка гісторыі Міхаіла Захарцова даглядаюць магілу Барыса Мікуліча, збіраюць звесткі аб ім у школьны краязнаўчы музей. На Радзіме ж, не зважаючы на юбілей, згадак пра Барыса Мікуліча няшмат. Апошняя яго ная публікацыя была 14 гадоў таму. Аднак верыцца, што апошнія свае слова беларускі пісьменнік Барыс Мікуліч яшчэ скажа: у цалкам апублікаванай і прачытанай літаратурнай спадчыне. А таксама застаецца спадзяванне, што яго ны прах – як і парэшткі знішчаных на этапах Сібіры Уладзіміра Жылкі ды дзясяткаў іншых класікаў нашай літаратуры – вернецца ўрэшце на Беларусь, дзе знойдзе свой супакой у нацыянальным Пантэоне.

Бо ўсе яны пісалі і жылі – усё ж – не для сябе.

*Паводле Казіміра КАМЕЙШЫ і Алеся ПАШКЕВІЧА.*

# РАЗВІТАННЕ

**Барыс МІКУЛІЧ**

## Раздзел з аповесці



Клопатамі сяброў удалося сабраць патрэбную суму грошай, каб адправіць хворага паэта на поўдзень. На Плаўніка ўсклалі цяжкі абавязак угаварыць паэта ехаць лячыцца, пераканаць яго ў тым, што грошы на дарогу — гэта аванс пад будучую кнігу, над якой ён будзе працаваць у Ялце, не спяшаючыся, як стане лягчэй са здароўем.

А са здароўем было дужа дрэнна.

Наступіў момант, калі Багдановіч цэлымі днямі не падніма ўся з пасцелі, адмаўляўся ад ежы, скрозь усю ноч цяжка кашляў, задыхаўся, харкаў крывёю. У рэдкія хвіліны зацішша ён любіў гаварыць аб будучым, аб тым, як беларуская культура зойме пачэснае месца сярод славянскіх культур, аб тым, як надыдзе такі час, калі ўсе культуры злучацца ў адну, агульначалавечую. А часамі раптам яго апаноўвалі цяжкія думкі, і тады ён гаварыў аб пагібелі цывілізацыі, аб тым, што тэхніка, развіваючыся, паглыне і мастацтва і самую сябе. У «беларускай хатцы» наладзілі вечар і запрасілі Багдановіча. Але чытаць прыйшлося старыя вершы — пра восень, пра старасць, пра лесуна. Цыкл «З песень беларускага мужыка» чытаць не дазволілі, але выйшла так, што нехта пусціў па руках рукапіс «Эмігранцкай песні» і «Пагоні», і гэта стварыла своеасаблівую атмасферу гарачай прыхільнасці да паэта.

Ён чытаў глухім, нізкім распевам.

Дзіўныя вершы пра тое, як брыдзе ў абшарпанай шкуры лясун па дарогах, рог абламаны аб дрэва, спяшаецца стары небарака ў дрыгву, у цёплыя мхі... Дзіўныя вершы пра тое, як лясун пачынае перабіраць струны-сосны і як гранне дзівоснага струманту палоніць свет.

Але слухачы чулі іншы голас за гэтымі вершамі: голас вялікай любові і нязмернага болю за лёс айчыны. І як канчаліся вершы, воплескі трапяткімі голубамі шугалі ў паветра. Яшчэ і яшчэ прасілі яго чытаць. І праважалі яго гуртам, шумлівым і гаваркім гуртам моладзі. І ўжо ля самай кватэры Багдановіч сказаў да Плаўніка:

— Вось і развітанне... Апошнія дні я ўвесь час развітваюся...

На ганку, калі Багдановіч прайшоў у пакой, Плаўніка перапыніла сястра:

— Самуіл! Я прыбірала ў пакоі і выпадкам зачапіла люстэрка.

— Глупства, не заўважыць.

Але ён заўважыў. Ён зняў пустую акантоўку і сабраў з падаконніка кавалкі шкла. Трымаючы ўсё гэта ў руках, моўчкі сеў на ложак і задумаўся. І як увайшоў у пакой Плаўнік, паэт узняў на яго вочы, і столькі суму было ў іх, столькі несхаванага болю, што ў Плаўніка зашчымела сэрца...

— Значыць, канец.

— Ды што ты, Максім, гэта выпадак, дробязь. Ты ж сам казаў, што не верыш ні ў бога, ні ў чорта.

Аскеп'е і парожняя акантоўка ляжалі на далоні, і, нібы зачараваны імі, глядзеў Багдановіч і бачыў дзіўныя адлюстровак лямпы, паўтораны некалькі разоў.

— У чорта не веру, а ў гэта — веру. Матчын падарунак. Не, гэта канец.

І кінуў аскеп'е на стол, і мільганулі агеньки на стале.

— Канец, — паўтарыў і ўзняўся з месца, падышоў да акна і прыхіліўся белым высокім ілбом да шыбіны. — Развітаўся з маладосцю, з сяброўствам, радзімай. Магу паміраць спакойна, як паміралі нашы продкі. Шкада толькі, што не на бранным полі, а дзе-небудзь на шпітальным ложку. Не, не, не пужайся. Я паеду. Цяпер мне ўсё адно. І не трэба мне ехаць на поўдзень, лішнія турботы, але я паеду. А як бы хацелася дажыць да сапраўднага світання!

— Божа ж мой, — з хваляваннем прашаптаў Плаўнік, — мы дажывём, Максім! «І будзе ўнукам панаванне там, дзе сягоння плача дзед». Так сказаў наш паэт. І гэты час блізка, толькі ўзыдзе сонца. Вось пабачыш.

Багдановіч паглядзеў на таварыша. Які гэта мілы, ветлівы і таленавіты чалавек. Няхай жыве і працуе, ён шмат яшчэ зробіць, гэты выдатны паэт і белетрыст, падумаў Багдановіч, а выказаў думку інакш:

— Праўда, Ясакар, мы дажывём. Мы! А я, Максім Багдановіч, не дажыву. Канец.

Праз некаторы час у Ялце надышоў канец.

І хоць пісаў ён, што кніга з друкарні пана Марціна Кухты парушае яго самоту, ён адчуваў сябе самотным.



А яшчэ праз колькі часу — у кастрычніку таго ж 1917 года — надышло сапраўднае світанне, аб якім марыў хворы паэт.

Заканчэнне на с.6



Уладзімір ЛІЎШЫЦ

# Горацкія сябры Якуба Коласа

(Заканчэнне. Пачатак у № 11)

*«...І з цягам часу абавязкова разваліцца. Ва ўсякай справе неабходна вытрымка, і тое, што Колас меў, магчыма, з'яўляецца прычынай многіх яго творчых і жыццёвых удач.*

*У клубе народу сабралася шмат, дарагога госця сустрэлі воплескамі і неўзабаве прасілі што-небудзь прачытаць. Колас не лічыў сябе майстрам мастацкага чытання, але ў вузкім коле прыхільна настроеных людзей выступаў ахвотна. Ён прачытаў нам некалькі вершаў з нізкі "Калгаснае", толькі што тады напісанай... Чытаў ён па рукапісу, стоячы каля стала, спакойна, без лішніх рухаў. Ніякай рыторыкі, перaўвасаблення, нічога акцёрскага. Хутчэй ён нагадваў настаўніка альбо вучонага, які з унутраным перакананнем горача расказвае аб тым, што важна для ўсіх. Мілагучны, трошкі глухаваты голас, выразнае вымаўленне кожнага слова — так, каб нічога не страчвалася — усё гэта надавала непаўторны, своеасаблівы каларыт...*

*Яшчэ і цяпер у маіх вушах гучаць інтанацыі заклапочанага роздуму ў вершы "Серадняк", які вельмі ўсім спадабаўся.*

*Па чыну*
*мне паложана,*
*Як ёсць я серадняк,*
*Глядзець на ўсё ўстрывожана*
*І думаць так і сяк...*

*Нельга абмінуць і коласаўскі гумар – здаровы смех вясёлага, шчырага чалавека. Поспех Коласа ў навуковых супрацоўнікаў сельскагаспадарчай акадэміі быў выключны. Яго акружылі, віншавалі. Завязалася шчырая гутарка. Праводзілі мы Коласа ўрачыста. Паклалі ў яго малюсенькі чамаданчык тры бутэлькі лепшых ягадных він лабараторнага вырабу прадукцыі кафедры садоўніцтва. Тады гэта была навінка. Пажадалі яму здароўя і творчых поспехаў».*

Абставіны вымушаюць Ю.Гаўрука пераехаць у Магілёў, і з 1931 па 1935 гады ён чытае курс замежнай літаратуры ў педагагічным інстытуце. А потым у яго жыцці наступіла пара цяжкіх выпрабаванняў. У 1935 годзе Ю. Гаўрука арыштавалі і да 1946 года ён быў вязнем ГУЛАГа. Але і там ён працягваў сваю творчую працу.

У 1946 г. яму дазволілі пабываць у роднай Беларусі і ён наведаў Якуба Коласа. *"Колас прыняў мяне,* — успамінаў Ю. Гаўрук, — *радасна і сардэчна. Няёмкасць як рукой зняло. Ён распытваў, што раблю. Слухаў з цікавасцю... Гутарка цягнулася даволі доўга... Я выйшаў ад Коласа акрылёны".*

У 1947 г. Ю.Гаўрук напісаў Коласу некалькі лістоў наконт перакладу на беларускую мову трагедыі Шэкспіра "Отелло", і Колас хутка адказаў яму.

Скончылася ссылка. Ён здолеў перамагчы цяжкасці і пасля вызвалення працаваў загадчыкам літаратурнай часткі беларускага тэатра імя Я.Купалы, займаўся перакладамі вершаў, драматургічных твораў, пісаў вершы, выдаў некалькі кніг.

У 1979 годзе Юрыя Паўлавіча Гаўрука не стала.

### "Ён параіў мне пісаць уласныя апавяданні... "

Леаніла Усцінаўна Чарняўская, жонка Максіма Гарэцкага, дзіцячая пісьменніца, была добра знаёма з Якубам Коласам.

А пачалося знаёмства з лістапада 1923 г., калі Колас упершыню завітаў да Гарэцкіх. Сяброўства працягвалася і з пераездам Гарэцкіх у Горкі. Аб гэтым сведчаць два лісты, якія змешчаны ў трынаццатым томе збору твораў Я. Коласа. У першым лісце, які Колас даслаў 17 красавіка 1927 г., пісьменнік піша, што хоча прыехаць якраз тады, калі распускаюцца бярозавыя лісточкі. Відаць, вельмі падабаліся яму горацкія сады і гаі.



Якуб Колас сярод жанчын

Як адзначаецца ў кнізе М.Мушынскага "Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці", такая сустрэча ў канцы красавіка адбылася. Яна праходзіла ў студэнтскім клубе акадэміі. Потым выкладчыкі разам з жонкамі завіталі на кватэру Міхася Ганчарыка. Там Колас зноў чытаў свае вершы, а жанчыны, апранутыя ў беларускія нацыянальныя касцюмы, спявалі.

Дачка Леаніла Усцінаўны, Галіна Максімаўна, успамінала, што маці тады спявала Я. Коласу народныя песні "Не жаніўся я" і "Зара мая вячэрняя".

Ад гэтай сустрэчы засталася цікавая фотакартка *"Якуб Колас сярод жанчын у беларускіх нацыянальных касцюмах".* Злева ад Я. Коласа сядзіць Л.Чарняўская, а справа — Паліна Вінцэнтаўна Мядзёлка, паэтэса, артыстка (адна з першых выканаўцаў ролі Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Я.Купалы, заслужаная дзеячка культуры Беларусі).

Другі ліст да Л. Чарняўскай датуецца 9 лістападам 1927 г. У ім ён піша: *"Я не знаходжу адпаведных слоў, каб выказаць Вам, мілыя жанчыны-беларускі, маю радасць і маю падзяку за віншаванне. А таксама не магу звярнуцца да вас як бы гэта трэба было. Нававу хіба Вас гэтак: "Цвет і краса жанчын беларускай зямлі".*

Так пісьменнік выказвае падзяку за віншаванне да дня нараджэння. Паведамляў таксама і аб тым, што ён чакае выхаду з друку кнігі "У глыбі Палесся". *«Тады кожнай з Вас прышлю па кнізе,* — піша Колас, — *бо Вы такія мілыя, слаўныя, што калі толькі пачнеш аб Вас думаць, дык весялей і святлей робіцца на сэрцы...».*

У 1928-1930 г.г. сям'я Гарэцкіх жыве ў Мінску і тады Л.Чарняўская часта сустракалася з Коласам.

Галіна Максімаўна успамінала, што маці пакінула чарнавыя запісы пра знаёмства і сустрэчы з Коласам, у якіх пісала: *«У 1928 г. выйшла мая першая дзіцячая кніга "Верка". Канстанцін Міхайлавіч параіў мне пісаць уласныя апавяданні для дзяцей, а не толькі перакладаць з чужой мовы, і добрыя яго словы былі пэўным штуршком для мяне, як пісьменніцы».*

У 1928-1930 г.г. выйшлі яе асобныя кнігі «Андрэйка», «Кот-знайдзён», «Валуй» і іншыя. Аднак, на жаль, яе пісьменніцкая дзейнасць у тыя гады прыпынілася, бо была яна жонкай "ворага народа".

Але сувязь паміж ёй і сям'ёй Я.Коласа не прыпынілася. Так, 24 лістапада 1932 года жонка пісьменніка Марыя Дзмітрыеўна (відавочна, Коласу пісаць жонцы "ворага народа" было нельга) пісала: *«Дарагая Леаніла Усцінаўна! Вельмі прыемна было атрымаць ад Вас ліст якраз 4-га лістапада усё роўна, як бы мы ў гэты дзень былі разам з вамі... Дзякуй за памяць і шчырыя пажаданні... Пажадаю Вам з найменшымі цяжкасцямі перажыць вяцкую зіму. Прывітанне і шчырае дзякуй ад Коласа да брата і дзяцей...».*

У ліпені 1944 года, пасля вызвалення Беларусі, Леаніла Усцінаўна звяртаецца да Я. Коласа, каб ён дапамог перавезці з Вяткі яе і дачку Галіну на педагагічную працу ў г. Мсціслаў. Вядома, што Колас пасылаў ліст народнаму камісару асветы БССР, каб ён хадайнічаў аб гэтым.

Праўда, працаваць ім у Беларусі не давялося. Леаніла Чарняўская памерла 26 верасня 1976 года ў Ленінградзе, пакінуўшы невялікія ўспаміны пра сустрэчы з Коласам. Там жа жыла і Галіна Максімаўна, якая таксама з вялікай цеплынёй успамінала пра Якуба Коласа.

# СУСТРЭЧА для спецшколы

16 лістапада 2012 года Магілёўская цэнтральная гарадская бібліятэка імя К.Маркса запрасіла выхаванцаў дзяржаўнай спецыяльнай школы закрытага тыпу на літаратурна-музычную вечарыну "Славутыя сыны зямлі беларускай", прысвечаную 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Падлеткі пачулі расказ пра жыццё і творчасць літаратурных класікаў, паглядзелі цікавую відэапрэзентацыю з пазнавальнымі дакументальнымі фільмамі. Артысты народнага тэатра Палаца культуры вобласці Дар'я Поварава і Аліна Кісялёва пачыталі вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа. У вечарыне узяў удзел старшыня Магілёўскага аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Мікола Яцкоў, які зрабіў гістарычны экскурс у часы паслярэвалюцыйных пераменаў на Беларусі, калі была рэальная магчымасць узнікнення самастойнай беларускай дзяржавы, паразважаў пра тое, якую ролю адыгралі Я.Купала і Я.Колас у беларускай гісторыі. У выкананні Міколы і Алы Яцковых прагучала некалькі песен з вядомага цыклу Янкі Купалы "Песні на ваенны лад".





Бібліятэкары Ірына Цінякова і Святлана Міхальчук



Дар'я Поварава



Аліна Кісялёва



Ала і Мікола Яцковы

Сяргей ПІСЬМЕННЫ.

Фотаздымкі М.Яцкова і Д.Поваравай.


Государственное учреждение
дополнительного образования
«Центр творчества
детей и молодежи
«Агат»
г. Могилева»

Городской
литературный клуб
«СВЕТЛИЦА»

Наш адрес:
ул. Б. Машековская, 9 Б,
остановка
«Администрация Ленинского района»
т.: 26 46 91; 46 81 36
Велком: 8029 3448952

# Свята "Святліцы"

**21 лістапада 2012 года ў магілёўскім літаратурным клубе «Святліца», што існуе пры Цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Агат", адбылася творчая справаздача. Уступнае слова прамовіла пісьменніца, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Тамара Аўсяннікава, якая кіруе гэтым творчым аб'яднаннем. Яна падкрэсліла, што ў нас шмат таленавітай моладзі, і ідзе няспынны працэс паэтычнага асэнсавання сусвету, што вакол нас. І далейшыя выступы Кацярыны Волкавай, Марыі Федзюковай, Мікіты Карнеева, Вікторыі Ільюшкінай, Аляксандры Пчалінцавай, Таццяны Міхайлавай, Алены Воінавай, Святланы Тарасавай, Юліі Іваніцкай з'явіліся рознахарактарнай ілюстрацыяй гэтых слоў.**

**У сустрэчы ўзяў удзел старшыня магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Мікола Яцкоў, які адзначыў вялікую неабходнасць такой працы з маладымі талентамі і звярнуў увагу на тое, што ў творчасці ўдзельнікаў "Святліцы" большае месца павінна належыць беларускаму слову, бо хто, як не яны, змогуць падтрымаць родную мову і несці наша неўміручае слова ў будучыню.**

**Напрыканцы Тамара Аўсяннікава і Мікола Яцкоў прачыталі свае вершы, якія былі сустрэты апладысментамі прысутных.**

**Прапануем вашай ўвазе вершы сябраў літаратурнага клуба "Святліца", якія прагучалі на гэтай сустрэчы.**




Тамара Аўсяннікава

***Никита КОРНЕЕВ,** 13 лет*



* * *

Шёл недавно я по полю,
Вдруг откуда ни возьмись,
Чёрный конь летит стрелою –
Вся трава взметнулась ввысь.
Чёрный сам и с чёрной гривой,
Блеск копыт затмил мой взор.
Гордый, смелый и красивый-
Я назвал его Трезор!

* * *

Скачет изящный Ахалтекин,
Слово похоже на город Пекин.
Из далёкого оазиса Ахал - Теке,
Движется - будто плывёт по реке.
Ахалтекинец - огонь,
Самый резвый и крупный конь.

***Екатерина ВОЛКОВА,** 11 лет*



* * *

Деревья качнулись,
Закат далеко.
Цветочки уснули,
На сердце легко.

* * *

Котик с мячиком играет,
Про порядок забывает.
И громит он всё вокруг,
Мой пушистый добрый друг.

* * *

На улице солнце.
Ветра по задворках.
А лучик в оконце -
И дети на горках.

* * *

Солнце светит. Хорошо!
За окошком вечер.
Вот и мигом день прошёл,
Дует лёгкий ветер.




Кацярына Волкава


Мікіта Карнееў

***Виктория ИЛЬЮШКИНА,** 16 лет*

* * *

Тихо. Звёзды. Ночь. Деревня.
Запах дыма и травы.
В тёмных окнах нет движенья -
Люди спят. Им снятся сны.
Так беспомощно и мирно
Прячут уши в тёплый пух
В ожидании, что утро
Принесёт для них петух.
А у будки с толстой цепью
Ходит-бродит старый пёс.
Он подавлен этой ночью,
Он бы взвыл, да нету слёз.
Взглядом в небо упираясь,
Вспоминает волчью жизнь:
*"...Одиночество осталось…*
*А свобода где?! Скажи!*
*Ну, ответь!.."*
Безмолвно небо.
Тишина из пустоты.
Только слышен запах хлеба,
Запах дыма и травы...

***Елена ВОИНОВА,** 14 лет*

* * *

Поток людских страстей -
Их волны выше, выше!
На тысячи частей
Разбиты наши души.

Я разучилась жить.
Я просто существую.
А может, всё забыть?
Зачем страдать впустую?

Не вспоминать невзгоды,
И сохранить надежду,
И ощутить свободу,
Невиданную прежде!

Зачем мне знать сейчас,
Что ждёт нас всех забвенье?
Придёт в полночный час
Незримо вдохновенье…

***Светлана ТАРАСОВА,** 16 лет*

* * *

Туманно-облачная даль.
А что за ней, теперь не страшно...
Нам ничего уже не жаль –
Вся жизнь корабликом бумажным.

Не знать о будущем совсем.
Что дальше? Пусть, что есть, то будет!
Излить слова, весь бред проблем.
Забыть всё напрочь – все мы люди.

Безумно жаждем все вернуть...
Так безнадежно смотрим в небо...
Но друг за другом смех и грусть
Уходят в прошлое, уходят в небыль...


Алена Воінава


Вікторыя Ільюшкіна

***Мария ФЕДЮКОВА,** 12 лет*

МЕТРОНОМ

Сердце моё – метроном:
Отбивает секунды,
минуты,
часы.
Ты всё знаешь,
знаешь о нём,
Где найти мне его –
подскажи!
Я бегу под дождём,
я любуюсь дождём,
Моё сердце стучит,
как метроном.



***Таццяна МІХАЙЛАВА,** 8 гадоў*

КОЦІК



Жыў на свеце чалавек,
Ён пражыў, напэўна, век,
Коціка ў бары спаткаў,
Да сябе яго пазваў.
Разам ў хаце ўсё рабілі,
Па грыбы ў лес хадзілі,
Ледзь-ледзь сонейка – ўставалі,
Смачна снедаць гатавалі.
– Ты скажы мне, мой каточак,
Мой любімы галубочак:
Як адзін раней ты жыў?
Мабыць, на вайну хадзіў?
– Памятаю, быццам ў сне,
Люты вораг біў мяне,
На сасне хаваўся я,
Было страшна мне ўдвая.
– Ты хадзі сюды, мой коцік,
Пачашу табе жывоцік.
Хто твой вораг быў, малыш?
– Самы страшны – гэта мыш!


Святлана Тарасава

***Анастасія ПАДРАБІНКІНА,** 13 гадоў*

МАЯ РАДЗІМА

Цябе вітаю я здалёк,
Любімы, родны мой куток!
Гняздо бусла, і шум лясоў,
І поле буйных каласоў.

Азёрны край мой дарагі,
Зімой – бялюткія снягі...
Ты лепш за ўсіх
на гэтым свеце,
І мы твае заўсёды дзеці!


Таццяна Міхайлава


Марыя Федзюкова


Мікола Яцкоў





Заканчэнне на с.4



*Фотаздымкі Максіма Камарова*



# Святло "Свяцлiцы"

**Милослава УШАКОВА,** 12 лет

КУЗЯ

Есть у нас чудесный кот,
Он всеядный обормот.
Ест капусту и морковку,
Ест конфеты, пьёт компот;
Удивительно: сметаны
Даже каплю не лизнёт!
Ест очистки от картошки,
С аппетитом ест окрошку,
Огурцами объедается,
Кот от голода не мается.
Кузя наш – чудесный кот,
Он всеядный обормот.



**Александра ПЧЕЛИНЦЕВА,** 14 лет

* * *



Вот мой дом, стою у дверей,
Но войти мне не хочется.
Свет уличных фонарей
Отражает моё одиночество.
Иду вперёд, иду в никуда,
Улица мрачная, мысли теряются.
Небо ночное, словно вода.
Звёзды таинственно отражаются...

**Роберт ДОНЕЦ,** 16 лет

* * *

И пришёл долгожданный рассвет,
Ритмы сердца на вальс переходят,
А в глазах моих медленно
меркнет свет,
И мгновения в вечность уходят.

Хлад могильный коснулся сердца,
Ухмыляется сумрачный жнец -
Снова смерть открывает
заветную дверцу:
– Ну, пойдём же в наш скромный дворец!..

Тело пёрышком – ввысь и ввысь,
Устремляюсь совсем невесомый...
Но вот доносится, слышу: *"Вернись!"*
До боли голос знакомый.

*«Вернись, ты нужен на этой Планете,*
*Мойрами нить для тебя не допрядена,*
*Вернись и допой свою песню…»*
Это Бог говорил со мной
Голосом моей матери.





**Юлия ИВАНИЦКАЯ**

* * *

В забытом далёком
пророчестве
Цыганка нам не солгала.
В ленивых сетях одиночества
Тебя я давно не ждала.

Не нами…
Судьбою-ткачихою
Составлен цветной Гобелен,
И древней седой паучихою
Мы пойманы
в шёлковый плен.

Две нити в канве Мироздания
Связались в единый клубок.
Сердца принесли на заклание
Две жизни, да с разных дорог.

Всё верилось:
сбудется, сложится,
И ключ подберём мы к замку,
Да только бесстрастные
ножницы
Судьба поднесла к узелку…

# Вяртанне Барыса Мікуліча

**З ліста Барыса Мікуліча Сталіну:**

*«Тав. Сталін!*

***Да Вас звяртаецца беларускі пісьменнік, у жыцці якога адбылося няшчасце, і цяпер яму ніхто не можа дапамагчы, акрамя Вас. З дзяцінства я марыў быць літаратарам, рыхтаваўся да цяжкай і адказнай працы. Але вось адбылася катастрофа. З вялікай групай беларускіх пісьменнікаў я быў арыштаваны і асуджаны за контррэвалюцыйную дзейнасць. Многа гадоў я правёў удалечыні ад радзімы, напісаў 150 заяў, у якіх прасіў перагледзець прыгавор. У выніку вярхсуд перад вайной вырашыў пераглядзець маю справу, але пачалася вайна. Мая справа згублена, а аднавіць яе не ўяўляецца магчымым «з прычынаў ваеннага часу». Некалькі месяцаў назад я атрымаў магчымасць зноў стаць грамадзянінам. Той-сёй з беларускіх літаратараў мяне падтрымаў, але мяне не друкуюць. Рэч у тым, што па суду я пазбаўлены выбарчых правоў на пяць гадоў, і гэтае абмежаванне стала перашкодай для маіх твораў. Прашу Вас дапамагчы мне, таварыш Сталін, бо вельмі цяжка жыць без любімай справы.*** *11 красавіка 1947 г.».*

**З ліста Барыса Мікуліча ў Вярхоўны суд:**

***«...Такім чынам, зноў настаў час нагадаць пра сваё існаванне і аб гістарычнай несправядлівасці, якую варта, у рэшце рэшт, выправіць. Да Вас звяртаецца былы беларускі літаратар, аўтар некалькіх кніг. На дваццаць пятым годзе свайго жыцця, у канцы 1936 г., я быў арыштаваны ў Мінску, абвінавачаны ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі, а затым асуджаны па артыкуле 58 - 10 -11 да 10 гадоў лагераў. Дастаткова сказаць, што ні ў 1937 г., ні пазней я не лічыў сябе вінаватым у прыпісваюцца мне злачынствах.***

***1/9 - 1947 г. Вярхоўны Савет БССР зняў з мяне судзімасць. У канцы красавіка 1949 года мяне зноў арыштоўваюць. Праз шэсць месяцаў мяне рашэннем Асобай нарады адпраўляюць на пасяленне ў Краснаярскі край «за контррэвалюцыйную нацыяналістычную дзейнасць». І вось чатыры гады я знаходжуся ў Краснаярскім краі, у Тасееўскім раёне, у пасёлку Машукоўка.***

***Калі ж гэта скончыцца? Вось ужо пятнаццаць гадоў трываю пакуты і знявагі - за што? За надуманыя злачынствы, за якія ў жо адказаў дзясяцію гадамі лагераў, мяне высылаюць ў Краснаярскі край, які звужаны рамкамі нават не раёна, а аднаго толькі пасёлка, з якога мы можам выехаць хіба што ў раённае сяло Тасеева і то з дазволу камендатуры. Па сутнасці, гэта той жа лагер, толькі без плота і вышак, – нешта накшталт штрафной бесконвойной камандзіроўкі. Пра гэта можна напісаць тамы.***

***Я не б'ю сябе ў грудзі і не каюся, мне няма ў чым каяцца, хіба толькі ў адным – што не спынілася маё жыццё. Але ў гэтым апошнім пакуль нямоглыя нават работнікі МГБ. Не каюся, але шчыра кажу: дайце магчымасць жыць, мне і маёй сям'і, дайце сумленна працаваць, але без агляdкі. Ячшэ раз пытаюся: калі скончыцца гэты дурны і злы жарт з ўяўным контррэвалюцыянерам?***

***Б. Мікуліч».*** *10.5.53 г.*




Помнік на магіле Б.М.Мікуліча. Машукоўка, Краснаярскі край.

**«ОПРЕДЕЛЕНИЕ.**

**23 сентября 1955 г. Судебная коллегия по уголовным делам Верховного суда Белорусской ССР рассмотрела в закрытом заседании протест Генерального прокурора СССР на постановление Особого совещания при МГБ СССР от 3 сентября 1949 г., которым Микулич Борис Михайлович, 1912 года рождения, белорус, служащий, уроженец г. Бобруйска, беспартийный, за принадлежность к антисоветской националистической организации и антисоветскую организацию сослан на поселение в Красноярский край.**

**В протесте ставится вопрос об отмене указанного постановления с прекращением дела дальнейшим производством.**

**Судебная Коллегия**

**УСТАНОВИЛА:**

**Следует признать, что постановление Особого совещания о ссылке Микулича на поселение является неосновательным.**

**Соглашаясь с протестом и руководствуясь ст. 51 Закона о судоустройстве, судебная коллегия**

**ОПРЕДЕЛИЛА:**

**Постановление Особого совещания при МГБ СССР от 3 сентября 1949 г. о ссылке Микулича Б.М. на поселение в Красноярский край отменить и дело в этой части дальнейшим производством прекратить. Микулича Б.М. от ссылки освободить».**



**З кнігі Б.Мікуліча «Аповесць для сябе»:**

***...Жывём мы ў глушы. Тайга, тайга! Сурова і груба ўсё... У апошні час пацягнула на літаратуру. Можа, скончыцца лета, асяду на прыватнай кватэры, паспрабую пісаць. Хачу напісаць «Споведзь» – без адраса і без надзеі апублікаваць. Для сябе.... Ну, вось і ўсё.***

“ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА”
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь
Магілёўскага абласнога аддзялення
ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”.
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць
за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 30.11.2012 г.. 21.00.
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

